Published by BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc., U. S. A. and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE $ 1.00

Address: BIELARUS 166-34 Gothic Drive Jamaica, N. Y. 11432

ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XVI. № 108-109 | Сакавік-Красавік 1966 | NEW YORK — TORONTO | March-April 1966 | Vol. XVI. №108-109

## У СЭНАЦЕ ЗША

### МАЛІТВА

**Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап БАПЦарквы Васіль 25 сакавіка 1966 году адкрыў сэсію Сэнату ЗША з нагоды 48-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі наступнай малітвай:**

**У імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа. Усемагутны Божа, Ойча наш Нябесны! Мы нізка схіляем галовы свае перад Табою, славім ласказасьць Тваю да нас, і прыносім Табе нашую глыбокую падзяку за ўсе багаславенствы, якімі Ты так шчодра абдарыў Амэрыку й яе народ.**

**Госпадзі Божа, Спасе наш! Мы горача просім помачы Твае, каб дух мудрасьці, моцы й любові стала кіраваў Прэзыдэнтам і Віцэ-Прэзыдэнтам Задзіночаных Штатаў Амэрыкі. Шчодра абдары таксама Тваім багаславенствам мудрасьці й сілы гэтую дабрародную Установу — пашаны годны Сэнат Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, гэтую цьвярдыню супакою, справядлівасьці й свабоды.**

**Прадвечны Божа, Спасіцелю наш! Мы горача молім Цябе сяньня: пашлі Тваю Боскую Ласку й апеку Беларускаму Народу, які 48 год таму абвесьціў Незалежнасьць сваё Беларускае Народнае Рэспублікі, і які праз увесь гэты час ня перастаў змагацца за сваё вызваленьне зь няволі бязбожных тыранаў, зь цьвёрдаю надзеяй, што з Тваёю дапамогай і ён будзе цешыцца тою воляю й свабодай, якія зьяўляюцца асновамі жыцьця ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі. Мы молімся сяньня, каб дабрадзействы свабоды, якія прыносіць дэмакратычны лад усяму вольнаму сьвету, паслужылі добрым прыкладам і заахвочаньнем Беларускаму Народу, бо надзея на вячыстую свабоду ня згасла сярод яго, але, як сьветач, палымнее ў глыбінях ягоных сэрцаў, імкнецца да свабоды.**

**Міласэрны Божа й Спасе наш! Мы зь Вераю молім Цябе: прымі гэтую Малітву нашую, багаславі Задзіночаныя Штаты Амэрыкі й нашую Маці-Беларусь.**

**Няхай цудоўнае імя Тваё, Божа й Спасе наш, пануе й зьзяе ў сэрцах нашых, і будзе багаслаўленае цяпер і навекі. Амінь.**

***

Гэтай малітвай Архіяпіскап БАПЦарквы Уладыка Васіль адкрыў у пятніцу 25 сакавіка сэсію Сэнату ЗША, якому быў ён прадстаўлены Віцэ-Прэзыдэнтам ЗША Губэртам Г. Гамфры.

Пасьля малітвы беларуская дэлегацыя ў складзе Уладыкі Васіля, старшыні Галоўнай Управы БАЗА інж. Мікалая Гарошкі, рэфэрэнта вонкавых дачыненьняў Галоўнай Управы БАЗА д-ра Станіслава Станкевіча й праф. Барыса Кіта была прынятая Віцэ-Прэзыдэнтам Губэртам Г. Гамфры ў прысутнасьці лідэра Дэмакратычнай фракцыі Сэнату сэнатара Майк Мансфільда з Мантаны й лідэра Рэспубліканскай фракцыі сэнатара Эвэрэт Дэрксэна зь Іліной. Пасьля супольнага сфатаграфаваньня, беларуская дэлегацыя, з даручэньня сэнатара Джэкаб Джэвітса, ягоным асыстэнтам д-рам Лісьлі Гэльбам была запрошаная ў рэстаран для сэнатараў на Капітолі на абед.

У сувязі з тым, што наш заўсёдны пасярэднік у Сэнаце сэнатар зь Нью Ёрку Джэкаб Джэвітс у гэтым часе знаходзіўся ў Паўдзённай Амэрыцы, на ягоную просьбу, функцыі пасярэдніка выконваў сэнатар Эвэрэт Дэрксэн.

**Абавязкам кажнага Беларуса падтрымаць грашова собскую газэту „Беларуса"**

# 48-ЫЯ УГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ



**ДЭЛЕГАЦЫЯ БАЗА Ў ВІЦЭ-ПРЭЗЫДЭНТА ЗША ГУБЭРТА Г. ГАМФРЫ**

**Справа ад Віцэ-Прэзыдэнта: старшыня Галоўнай Управы БАЗА інж. Мікалай Гарошка і праф. Барыс Кіт; зьлева ад Уладыкі Васіля: Капэлян Сэнату Дастойны Фрэдэрык Браўн Гаррыс і рэфэрэнт вонкавых дачыненьняў БАЗА д-р Станіслаў Станкевіч**

## УРАЧЫСТАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ У НЬЮ ЁРКУ

### БОЖАЯ СЛУЖБА

Сёлетняе сьвяткаваньне 48-ых угодкаў абвешчаньня дзяржаўнай Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі адбылося ў Нью Ёрку ў нядзелю 27 сакавіка. Было яно зладжанае супольна Галоўнай Управай Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Ньюёркаўскай Акругай БАЗА, Аддзелам БАЗА ў Нью Джэрзі й Аддзелам БАЗА ў Гэмпстэд, штату Нью Ёрк.

А 10-ай гадзіне раніцы гэтага дня ў Катэдральным Саборы БАПЦарквы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбылася Божая Служба й малебен за Беларускі Народ і ягонае вызваленьне, адпраўленыя Уладыкам Васілём. У часе малебну Уладыка Васіль сказаў вельмі прыгожае й глыбака патрыятычнае казаньне.

### УРАЧЫСТАЯ АКАДЭМІЯ

А 3-яй гадзіне папаўдні ў залі гатэлю Білтмор на Мангэтэне распачалася ўрачыстая Акадэмія, якую адкрыў старшыня Галоўнай Управы БАЗА інж. Мікалай Гарошка. Пасьля прапяяньня амэрыканскага нацыянальнага гімну сп-няй Лізай Маркоўскай і малітвы Архіяпіскапа БАПЦарквы Васіля, якую ён два дні перад гэтым чытаў у Сэнаце ЗША, слова ўзяў ведамы ўжо з выступленьня на такой-жа Акадэміі летась ды з выступленьняў з прамовамі ў Кангрэсе летась і сёлета ў вабароне нацыянальна-палітычных правоў Беларускага Народу кангрэсмэн із штату Нью Джэрзі Паўла Крэбс (ад Дэмакратычнай партыі). У гарачых словах ён выказаў прызнаньне Беларускаму Народу, які, не зважаючы на вялізарныя ахвяры, наважана вядзе змаганьне супраць камунізму за сваё вызваленьне, даючы гэтым узорны прыклад усім народам сьвету, загрожаным камунізмам. Гаворачы пра Беларусаў Амэрыкі, кангрэсмэн Крэбс заявіў даслоўна: **„Ваш дух і патрыятызм нязломныя. Вы гэта паказалі пры шмат якіх нагодах і шмат разоў. Галоўна Вы гэта паказалі ў дзьвюх формах: адна — гэта Вашае сяброўства й дзейнасьць у Беларуска - Амэрыканскім Задзіночаньні; другая — адзначаньні кажнага году абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі".** Сваю прыгожую прамову закончыў кангрэсмэн Крэбс наступнымі словамі: **„Пакуль узноў пабачуся з Вамі, ведайце, што маё бюро, як кангрэсмэна Задзіночаных Штатаў заўсёды да Вашых паслугаў у Вашым шляхотным змаганьні за свабоду. Зьвяртайцеся да мяне. Пакуль пабачымся ўзноў, хай Бог багаславіць Вас".**

Другім амэрыканскім прамоўцам быў кангрэсмэн Сэймур Гальпэрн із штату Нью Ёрк (ад Рэспубліканскай партыі). У сваёй доўгай і грунтоўнай прамове ён даў глыбокі й уніклівы аналіз праступнай існасьці камунізму, вельмі правільна нарысаваў усе тыя беды, што церпіць ад расейскага камунізму Беларускі Народ, ды выказаў цьвёрдую веру ў тое, што ў сваім супраціве й змаганьні ён пераможа. Кангрэсмэн Гальпэрн зьдзівіў слухачоў дакладным веданьнем палажэньня ў БССР, асабліва савецкай палітыкі русыфікацыі. Ён падаваў ня толькі агульныя мамэнты русыфікацыйнай палітыкі ў БССР і супраціву ёй нацыянальнай інтэлігэнцыі, але й ілюстраваў свае цьверджаньні малаведамымі тут канкрэтнымі фактамі, узятымі зь беларускай савецкай прэсы.

Вельмі правільна вызначыў ён цяжар няволі расейскага камунізму, пад якім стогнуць народы Савецкага Саюзу. **„Ёсьць фактам, — цьвердзіў кангрэсмэн Гальпэрн, — што ў той час, калі расейскі народ церпіць ад саветызацыі, дык нерасейскія народы церпяць і ад саветызацыі, і ад русыфікацыі".**

Сваю прамову закончыў кангрэсмэн Гальпэрн наступнымі словамі: **„Хай нам будзе дазволена на гэтых 48-ых угодках абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі зьвярнуць увагу сьвету на праблему савецкай тыраніі; гэта таму, што ў трагэдыі Беларусі народы, якія сяньня цешацца свабодай, могуць пабачыць савецкі камунізм у акцыі. Але перадусім мы павінны выказаць асаблівае прызнаньне вялікаму й гэраічнаму народу, Беларусам, якія, трэба верыць, аднаго дня будзе мець шчасьце выбраць сваю долю, як нацыя".**

Мэр гораду Нью Ёрк Джон Ліндзі, ня могучы прыбыць асабіста, выдэлегаваў на Акадэмію свайго асыстэнта Кастанціна Сідамона Арыстафа, які ад ягонага імя у кароткай прамове прывітаў прысутных і прачытаў праклямацыю мэра Ліндзі пра абвешчаньне дня 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі ў горадзе Нью Ёрку.

Тут-жа былі прачытаныя прысланыя на адрыс Галоўнай Управы БАЗА праклямацыі губэрнатара штату Нью Ёрк Нэльсана Рокфэлера й губэрнатара штату Пэнсыльвэнія Вільяма Скрэнтана пра абвешчаньне ў гэтых штатах Дня Беларускай Незалежнасьці. Далей былі прачытаныя такія-ж праклямацыі губэрнатара штату Нью Джэрзі Рычарда Гюса, мэра гораду Нью Брансьвік Чэстэр Паўлюса й мэра гораду Саўт Рывэр Тэодора Апэлбі, штату Нью Джэрзі, якія былі ўручаныя Управе Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі. Наапошку была прачытаная такая-ж праклямацыя старшыні каўнты (павету) Нассаў А. Нікэрсона, якая ім асабіста была ўручаная управе Аддзелу БАЗА ў Гэмпстэд.

Ад беларускага грамадзтва на Акадэміі прамаўлялі старшыня Галоўнай Управы БАЗА інж. М. Гарошка паангельску й сябра Галоўнай Управы БАЗА д-р С. Станкевіч пабеларуску.

Пасля гэтага прысутныя на сьвяткаваньні старшыні й прадстаўнікі іншанацыянальных цэнтраў і арганізацыяў выступалі з прывітальнымі прамовамі.

Чулымі й глыбака зьмястоўнымі словамі першы вітаў Беларусаў старшыня Амэрыканскага Прадстаўніцтва Выканальнага Органу Украінскай Нацыянальнай Рады Іван Крамарэнка. Пасьля яго гаварылі: віцэ-стршыня Грузінска-Амэрыканскага Задзіночаньня Сангулія, старшыня Украінскага Работніцкага Саюзу Антон Бацюк, прадстаўнік Польскай Лігі Незалежнасьці сэнатар Эдвард Клешчынскі, старшыня Задзіночанай Каўказкай Арганізацыі (Грузіі, Армэніі, Азэрбайджану й Паўночнага Каўказу) Алексіс Чэнкэлі, прадстаўнік Паўночна-Каўказкага Цэнтру ў Турэччыне д-р Рамазан Карча, прадстаўнік Туркестанска - Амэрыканскага Задзіночаньня Гуссан Ікрам, старшыня Кантактнай Камісіі Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскага Блёку) праф. Г. Накашыдзэ.

Апрача прывітальных прамоваў, былі прачытаныя й некаторыя з цэлага мноства присланых пісьмовых прывітаньняў і тэлеграмаў. Спачатку было прачытанае пісьмовае прывітаньне Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка. Тады былі прачытаныя даўжэйшыя пісьмовыя пасланьні на Дзень Незалежнасьці Беларусі ад сэнатара зь Іліной Эвэрэт Дэрксана й ад сэнатара з Канэктыкат Томаса Дода. Апрача іх, былі прачытаныя пісьмовыя прывітаньні яшчэ ад наступных сэнатараў ЗША: Вільяма Фульбрайта — сэнатара з Арканзас і старшыні Сэнацкага Камітэту Замежных Дачыненьняў, Джэкаб Джэвітса — сэнатара зь

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

## У ПАЛАЦЕ ПРАДСТАЎНІКОЎ

### МАЛІТВА

**З нагоды 48-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі беларускі каталіцкі сьвятар Ксёндз Міхал Урбановіч адкрыў 7 сакавіка 1966 году сэсію Палаты Прадстаўнікоў ЗША наступнай малітвай:**

**Молімся ў імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа.**

**Усемагутны Божа, Збаўца й Уладар усіх народаў, сяньня ў гэтай слаўнай Палаце Прадстаўнікоў Задзіночаных Штатаў Амэрыкі мы славім Цябе ад імя народу, зь якога мы, ведзеныя Тваёй праведнай рукой, прыйшлі ў гэты край зь Беларусі.**

**Мы дзякуем Табе за багаславенствы, якімі Ты абдарыў Амэрыку.**

**Багаславі, о Божа, нашага Прэзыдэнта, Сьпікера гэтае Палаты, нашых заканадаўцаў, нашае духавенства, і Збройныя Сілы гэтага краю свабоды.**

**Багаславі волялюбны Беларускі Народ, які 48 год таму 25 сакавіка 1918 году абвесьціў незалежнасьць сваёй Беларускай Народнай Рэспублікі. Воля й Дэмакрацыя былі кароткатрывалыя ў Беларусі, бо чырвоная армія зьнішчыла іх.**

**Беларускі Народ ніколі дагэтуль ня губляў надзеі на нацыянальную незалежнасьць і кажны год прыпамінае дзень абвешчаньня незалежнасьці — гістарычнага 25 Сакавіка.**

**Адзначаючы Дзень Незалежнасьці Беларусі ў слаўных Задзіночаных Штатах, мы молім Цябе, любы Ойча, даць усяму Беларускаму Народу духовую моц супрацьстаяць бязбожнаму камунізму й захаваць ідэалы свабоды. Глянь ласкава з вышыні, о Божа, на дзяцей Тваіх, што ў муках просяць міласэрдзя Твайго.**

**Мы пакорна просім Цябе ашчасьлівіць Беларускі Народ, каб ён хутка мог пабачыць сьвітаньне лепшых дзён, каб разам з усімі вольнымі народамі мог жыць у супакоі й дастатку, дастойна славячы Цябе, свайго адзінага Бога й Збаўцу. Амэн!**

***

Гэтай малітвай беларускі каталіцкі сьвятар Дастойны Ксёндз Міхал Урбановіч адкрыў 7 сакавіка сэсію Палаты Рэпрэзэнтантаў Амэрыканскага Кангрэсу ў Вашынгтоне.

Нашым пасярэднікам у Палаце Прадстаўнікоў быў кангрэсмэн із штату Мічаган Джон Дынгель. Дэлегацыю Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў складзе кс. Міхала Урбановіча, рэфэрэнта вонкавых дачыненьняў БАЗА д-ра Ст. Станкевіча й праф. Барыса Кіта яшчэ перад малітвай прыняў сьпікер Палаты кангрэсмэн із штату Масачусэтс Джон Мэк Кормак.

Пасьля малітвы й сфатаграфаваньня, беларускую дэлегацыю запрасіў кангрэсмэн Джон Дынгель на супольны абед у кагрэсавым рэстаране на Капітолю. Гэтая нагода была добра выкарыстаная дзеля дакладнага паінфармаваньня кангрэсмэна пра беларускія нацыянальна-вызвольныя праблемы й абмеркаваньня далейшага зь ім супрацоўніцтва.

**BIELARUS**
**Byelorussian Newspaper of North America**
**Published monthly by**
**BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.**
**and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE**

Address in U.S.A.: 166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Address in Canada: Byelorussian Canadian Alliance
524 St. Clarence Avenue Toronto 4, Ont.
Subscription $ 6.00 yearly.

**БЕЛАРУС** — Беларуская газэта Паўночнае Амэрыкі
**Выходзіць месячна.** **Рэдагуе Калегія.**

Выдаюць: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
й Згуртуваньне Беларусаў Канады.
Выпіска зь перасылкою — 6 дал. на год.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

**Сходу Беларусаў і Амэрыканцаў беларускага паходжаньня праведзенага ў Нью-Ёрку 27-га сакавіка 1966 году ў вадзначэньне 48-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.**

ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО камунізм, як ідэялёгія, дасюль не адмовіўся ад прынцыпу захопу й утрыманьня ўлады сілай зброі й тэрору, праз так званыя „нацыянальна-вызвольныя войны", каб усюды, дзе толькі можна, здушваць свабоднае разьвіцьцё народаў жорсткім кантролем іхнага палітычнага, эканамічнага й духовага жыцьця;

ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО маскоўскі камуністычны рэжым пад лёзунгам мірнага суйснаваньня з Заходнім сьветам хавае сваю дывэрсійную натуру й выкарыстоўвае гэты лёзунг на праводжаньне падрыўное дзейнасьці;

ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО беларускі народ церпіць пад жорсткім прыгнётам маскоўскага каляніялізму, які эксплятуе эканамічныя рэсурсы краю, а народ Беларускі трымае ў матар'яльных нястачах ды здушвае самабытную беларускую культуру й гвалтам насаджвае русыфікацыю.

МЫ, УДЗЕЛЬНІКІ СЬВЯТКАВАНЬНЯ Ў НЬЮ-ЁРКУ 48-Х УГОДКАЎ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ, УРАЧЫСТА ЗАЯЎЛЯЕМ І ПРЫРАКАЕМ:

1. Падтрымваць Прэзыдэнта Джансана ў ягоным наважаным супраціве камуністычнай агрэсіі ў Ветнаме, у імя запэўненьня бясьпекі Амэрыкі й абароны прынцыпу нацыянальнае свабоды ды права кажнага народу на свабоднае самавызначэньне.

2. Стала зварачаць увагу амэрыканскага народу на бязупыннае зласьлівае ачарняньне ў савецкім друку амэрыканскае рэчаіснасьці й ладу жыцьця гэтага краю ды адначасна разьдзьмухваньне ў савецкім грамадзтве ваеннае псыхозы й ненавісьці да Амэрыкі.

3. Падтрымваць ідэю стварэньня ў Кангрэсе Задзіночаных Штатаў Кангрэсавае камісіі, якая расьсьледвала-б і паказвала-б вольнаму сьвету долю паняволеных камунізмам народаў, каб прысьпешыць гэтак зьліквідаваньне турмы народаў, якую становіць сабою Савецкі Саюз, каб вызваліць Беларускі народ спад расейска-камуністычнага панаваньня ды забясьпечыць яму магчымасьць разьвіцьця й красаваньня ў сваёй вольнай дэмакратычнай дзяржаве — Беларускай Народнай Рэспубліцы, абвешчанай 48 год таму 25-га сакавіка 1918-га году.

**Нью Ёрк, 27 сакавіка 1966 г.**
Аа імя сходу:

**Інж. Мікалай Гарошка,**
старшыня Галоўнае Управы Беларуска - Амэрыканскага Задзіночаньня ў Амэрыцы,

**Др. Уладзімэр Набагез,**
Старшыня Акругі БАЗА ў Нью-Ёрку;

**Сяргей Гутырчык,**
Старшыня Аддзелу БАЗА ў штаце Нью-Джэрзі.


Office of the Mayor
CITY OF NEW YORK

Proclamation

Whereas: BYELORUSSIA IS A FERTILE LAND OF INDUSTRY, COMMERCE AND WIDE-SPREAD FARMLAND, THOUGH SUBJECT TO FOREIGN POWER TODAY, BY VIRTUE OF A MANDATE PROCLAIMING ITS INDEPENDENCE, ON MARCH 25, 1918, BYELORUSSIA SHOULD, AND BY RIGHT OUGHT TO BE A FREE NATION; AND

WHEREAS: IN SPITE OF GREAT SACRIFICE, THE YOUNG BYELORUSSIAN STATE WAS UNABLE TO PRESERVE ITS INDEPENDENCE AGAINST THE ONSLAUGHT OF OVERWHELMING BOLSHEVIK FORCES AND THE BYELORUSSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC WAS DESTROYED AND A BYELORUSSIAN SOVIET SOCIALIST REPUBLIC WAS CREATED IN ITS PLACE WHICH DOES NOT REPRESENT THE ASPIRATIONS AND HOPES OF THE PEOPLE; AND

WHEREAS: IT IS PERTINENT TO CIVILIZATION THAT BYELORUSSIA SHOULD AGAIN TAKE ITS PLACE AMONG THE FREE NATIONS OF THE WORLD IN ORDER TO REESTABLISH THE HUMAN DIGNITY OF ITS PEOPLE AND TO FURTHER THE CAUSE OF INTERNATIONAL PEACE AND JUSTICE THROUGHOUT THE WORLD,

NOW, THEREFORE, I, JOHN V. LINDSAY, MAYOR OF THE CITY OF NEW YORK, DO HEREBY PROCLAIM MARCH 25, 1966, AS

"BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY"

IN NEW YORK CITY, AND ON BEHALF OF ALL THE CITIZENS I DO EXPRESS OUR HOPE THAT BYELORUSSIA WILL BE SOON RESTORED TO TAKE ITS PLACE IN THE WORLD AS A FREE AND INDEPENDENT NATION.

IN WITNESS WHEREOF I HAVE HEREUNTO SET MY HAND AND CAUSED THE SEAL OF THE CITY OF NEW YORK TO BE AFFIXED.

John V. Lindsay
MAYOR, THE CITY OF NEW YORK

**Гэткага прыблізна выгляду, формы й зьместу й усе іншыя праклямацыі, якімі губэрнатары некаторых штатаў і мэры гарадоў абвесьцілі сёлета дзень 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі. Аб гэтым успамінаецца ў паасобных справаздачах ізь сьвяткаваньняў.**

# СЬВЯТКАВАНЬНЕ У НЬЮ ЁРКУ

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

Нью Ёрку, Томаса Кучэля — сэнатара з Каліфорніі, Рамана Грушкі— сэнатара зь Нябраскі, Франка Ляўшэ — сэнатара з Огаё, Джозэфа Кэйз — сэнатара зь Нью Джэрзі й Гарысона Вільямса — сэнатара зь Нью Джэрзі.

Было прыслана на адрыс Галоўнай Управы БАЗА звыш пяцідзесяці прывітальных лістоў і тэлеграмаў ад кангрэсмэнаў з розных штатаў Амэрыкі.

Пасьля гэтага былі прачытаныя прывітальныя лісты й тэлеграмы ад наступных іншанацыянальных арганізацыяў і прадстаўнікоў: Гэнэральнага Консуля Эстоніі ў ЗША Эрнэста Джаксана, старшыні Камітэту Вольнай Латвіі Віліса Гацнэрса, Македонскай Патрыятычнай Арганізацыі ў ЗША й Канадзе, старшыні Украінскай Нацыянальнай Асацыяцыі Я. Лысагіра, старшыні Вярхоўнага Казацкага Прадстаўніцтва інж. Васіля Глазкова.

Наапошку былі прачытаныя прывітальныя лісты ад наступных беларускіх арганізацыяў: Згуртаваньне Беларусаў Канады, Брадфардзкі Аддзел Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі, Згуртаваньне Беларусаў штату Іліной, Галоўнае Кіраўніцтва Згуртаваньня Беларускай Моладзі Амэрыкі, Аддзелы БАЗА ў Кліўлендзе, Дэтройце, Лёс Анджэлес, у Новай Англіі.

Апошняй часткай афіцыйнай праграмы было прачытаньне й прыняцьце Рэзалюцыі, а такасам прывітальных лістоў Прэзыдэнту ЗША Ліндану Б. Джансану, Прэзыдэнту Рады БНР Міколу Абрамчыку, Віцэ-Прэзыдэнту ЗША Губэрту Г. Гамфры, губэрнатарам штатаў і мэрам гарадоў, якія абвесьцілі дзень 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі, сэнатарам і кангрэсмэнам, што выступалі з прамовамі ў Кангрэсе ў Дзень Незалежнасьці Беларусі або якім-небудзь іншым спосабам выказалі свае прыязныя дачыненьні да справы вызваленьня Беларусі.

Прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну закончылася афіцыйная частка Акадэміі.


**Прамаўляе кангрэсмэн Пол Крэбс**


**Прамаўляе Кангрэсмэн Сэймур Гальпэрн**

**МАСТАЦКІЯ ВЫСТУПЛЕНЬНІ**

Афіцыйная частка Акадэміі была ўдала пераплятаная нумарамі мастацкай праграмы. Ведамыя й высока цэненыя нашыя сьпявачкі Ліза Маркоўская й Кляўдыя Джыль-Ярашэвіч выканалі дуэтам народную песьню „Туман" у музычным апрацаваньні кампазытара М. Куліковіча й народную песьню „Ляціць сарока" ў вапрацаваньні камп. Грачанінава. Апрача гэтага, Ліза Маркоўская выканала солё пафранцузку арыю з опэры „Міньён" камп. Тома, „Перад раньнем" на словы Натальлі Арсеньневай, музыка праф. Э. Зубковіч, „Маладыя гады" на словы Максіма Багдановіча, муз. Багатырова. Кляўдыя Джыль-Ярашэвіч прапяяла солё „Я іду дарогай" на словы Уладзімера Клішэвіча, муз. камп. М. Куліковіча, паітальянску арыю з опэры Моцарта „Дон Жуан", „Лета" на словы Чарнушэвіча, муз. Туранкова, і народную песьню „Козачка" ў музычным апрацаваньні камп. Чуркіна. Абедзьве сьпявачкі былі ўзнагароджаныя бурнымі воплескамі.


**Прамаўляе прадстаўнік мэра гораду Нью Ёрк Канстантын Сідамон-Эрыстоф**

З урачыста-патрыятычным настроем вечару добра гарманізавала „Беларуская фантазія" камп. Алеся Карповіча, якую прыгожа выканала на піяніне праф. Э. Зубковіч. Яна-ж акампаніявала на піяніне й да ўсіх песьняў успомненых салістак.

Добрым уразнастайненьнем праграмы было выступленьне ведамага ў Нью Ёрку Танцавальнага Гуртка Згуртаваньня Беларускае Моладзі пад кіраўніцтвам Алы Орсы-Рамана. Пяць маладых пар у прыгожых нацыянальных вопратках жыва праскакалі два народныя танцы — „Мікіту" й „Крыжачок".

Зусім адпаведна да праграмы былі дэклямацыі патрыятычных вершаў дзьвюх малых сясьцёр Ніны й Веры Запруднікаў, якія зьявіліся ў вадпаведным месцы ў прыгожых нацыянальных вопратках. Першая прадэклямавала верш Міхася Машары „Ёсьць дзень адзін", а другая — верш Янкі Купалы „За свабоду сваю".

Усю Акадэмію вёў сп. Янка Запруднік. Трэба падчыркнуць, што рабіў ён гэта на адпаведным узроўні й добрай ангельскай мовай.

Адразу-ж пасьля Акадэміі іншанацыянальныя госьці й прысутныя Беларусы былі запрошаныя ў суседнюю залю на сяброўскі кактэйль. У прыязных сяброўскіх гутарках бяседа працягнулася да позняга вечара.

Калі гаварыць пра агульнае ўражаньне з Акадэміі, дык трэба з прыемнасьцяй сьцьвердзіць, што, як і ўсе сёлетнія сакавіковыя імпрэзы, арганізаваныя й Галоўнай Управай БАЗА, і ягонымі Аддзеламі, прайшла яна на высокім ідэйным, мастацкім і арганізацыйным узроўні. Зь вялікай удзячнасьцяй трэба наапошку ўспомніць паважны ўдзел у Ньюёркаўскім сьвяткаваньні сяброў Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі.

**Ст. Станкевіч**

# 25 САКАВІКА У ЛЁС АНДЖЭЛЕС

У нядзелю 27 сакавіка сёлета ў залі Летувіскага Дому ў Лёс Анджэлес адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне 48-ых угодкаў незабыўнага Акту 25 Сакавіка. Сьвяткаваньне арганізавалі супольна мясцовыя аддзелы БАЗА й БККА.

Сьвяточную Акадэмію адкрыў старшыня Аддзелу БАЗА сп. Янка Бруцкі. Амэрыканскі й беларускі нацыянальныя сьцягі абапал Пагоні, народны настольнік, поўная заля людзей адразу стварылі паважны сьвяточны настрой. Былі адыграныя амэрыканскі гімн і малітва „Магутны Божа". Атрыманыя прывітаньні паангельску прачытаў сп. Я. Бруцкі, а прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў прачытала сп-ня Юзя Найдзюк.

Прывітаньні прыслалі: губэрнатар Каліфорніі Эдмунд Браўн, мэр гораду Лёс Анджэлес Сэм Ёрты, сэнатары Томас Кучэль і Джордж Мурфі, кангрэсмэн Крэйг Госмэр, Аддзелы БАЗА ў Кліўлендзе й Дэтройце, Згуртаваньне Беларусаў штату Іліной, БККА ў Нью Ёрку, Галоўная й Акруговая Управы БАЗА ў Нью Ёрку, прадстаўнік БККА ў Калярадо.

Зьмястоўны рэфэрат пра Акт 25 Сакавіка ў гістарычным працэсе беларускага нацыянальнага адраджэньня прачытаў сп. Я. Бруцкі. У канцы рэфэрату прамоўца выказаў перакананьне, што служэньне свайму народу павінна быць вялікім шчасьцем для кажнага Беларуса.

Пункты праграмы абвяшчаў сп. Ч. Найдзюк, прадстаўнік БККА на Каліфорнію.

У мастацкай частцы выступалі з дэклямацыямі дзеці й дарослыя. Навінай было выступленьне вучаніцаў Беларускай сыботный школы, падрыхтаваных да дэклямацыяў. сп. А. Вініцкім. Ядзя Найдзюк прадэклямавала верш Я. Коласа „Мой родны кут", Аня Вініцкая — верш Я. Купалы „Дзяўчынка лётчык". Верш „На 25 Сакавіка" быў прадэклямаваны Люсяй Вініцкай. „Не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому" Я. Коласа прадэклямавала пяцігадовая Карнэля Найдзюк.

Выступленьні дзяцей пераплятаіліся дэклямацыямі дарослых. Сп-ня Вера Вуіч прадэклямавала адрывак „Мой родны кут" з паэмы „Новая Зямля" Якуба Коласа. Верш Максіма Багдановіча і „Сябру пілігрыму" Пётры Сыча прадэклямавала сп-ня Каця Вініцкая. Сп. Ч. Найдзюк прадэклямаваў верш Цёткі „Вера Беларуса". На заканчэньне мастацкай часткі сп-няй Нюсяй Стус былі адыграныя на акардыёне дзьве песьні. Гэта была мілая неспадзеўка як для ейных бацькоў, гэтак і для тутэйшай беларускай грамады. Сьвяточная праграма закончылася адыграньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Неабходна дадаць, што, як і папярэднімі гадамі, губэрнатар Каліфорніі Эдмунд Браўн і мэр гораду Лёс Анджэлес Сэм Ёрты адмысловымі праклямацыямі абвесьцілі дзень 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі.

Пасьля Акадэміі адбыўся сяброўскі пачастунак, якім шмат хто быў захоплены, бо смачны абед быў прыгатаваны хатнім спосабам. За супольным сталом чуўся дружны белерускі нацыянальны настрой. Арганізатараў віншавалі з удала зладжаным сьвяткаваньнем. Наагул сьвяткаваньне сьветчыла аб далейшым здаровым павароце мясцовых Беларусаў у бок цясьнейшай нацыянальнай салідарнасьці й мацнейшага адзінства ў працы. **Н.**

# BYELORUSSIAN INDPENDENCE DAY IN U. S. CONGRESS

## Senate

**The Senate met on Friday, March 25, 1966 at 12 o'clock meridian, and was called to order by the Vice President.**

**Archbishop Vasili, of the Byelorussian Autocephalic Orthodox Church in the United States and Canada, Brooklyn, N. Y., offered the following prayer:**

### PRAYER

In the Name of the Father, and the Son, and the Holy Ghost. Almighty God, our heavenly Father! We humbly bow our heads before Thee, and offer our profound gratitude for the abundant blessings Thou hast bestowed upon America and her people.

O Lord and Redeemer! We ask Your assistance, that a spirit of wisdom, strenght and love direct our esteemed President and Vice-President of the United States, and that Your blessings of counsel and guidance remain abundantly with this august body. The Honorable Senate of the United States, this temple of peace, freedom and justice.

Eternal God and Savior! We pray today for Thy divine mercy and judgment for the welfare of the Byelorussian Nation, whose Proclamation of Independence, as the Byelorussian National Republic, was observed 48 years ago, and whose people have striven during these years to free themselves from the tyranny of an atheistic oppression, in the hope of enjoying the liberties and freedom, under God, as is the way in the United States. We pray today that the benefits of freedom granted to democracies all over the world may serve as an infallible encouragement to the people of Byelorussia, for the vision of everlasting freedom is not lost among them, but burns as a torch deep in their hearts.

Our God and Redeemer! We faithfully implore Thee: accept this our prayer, bless the United States of America and Byelorussia.

May Thy glorious Name, our God and Savior, reign and shine, in our hearts and be blessed now and forever. Amen.

### HONORABLE EVERETT McKINLEY DIRKSEN, U.S. SENATOR OF ILL.

**Statement from the Senate Floor on March 25, 1966.**

Mr. President, it was entirely appropriate that today His Excellency, Archbishop Vasili, of the Byelorussian Autocephalic Orthodox Church in the United States and Canada, should deliver the invocation in the Senate Chamber, because it was on this day, March 25, 48 years ago, in the city of Minsk, that the Byelorussian people proclaimed the Byelorussian National Republic. But since that time Russian domination has been reimposed on that province.

Over a period of time, I have submitted Senate Concurrent Resolution 6 and Senate Concurrent Resolution 10, calling for action by the United Nations to convince the Soviet Union that it should permit self-determination by the people of the Baltic States and all the people behind the Iron Curtain.

I was delighted to see His Excellency in the Chamber today, and to listen to his entreaty in behalf of his people and in behalf of their freedom and independence.

Mr. President, the distinguished Senator from New York (Mr. Javits) is unavoidably absent. If he were here, he would like to express himself on the subject of Byelorussia and to commemorate the 48th anniversary of the proclamation of Byelorussian independence, an independence which was subsequently lost. I ask unanimous consent that a statement prepared by the Senator from New York be printed at this point in the Record.

There being no objection, the statement was ordered to be printed in the Record, as follows:

### HONORABLE JACOB K. JAVITS, U. S. SENATOR OF NEW YORK

**Statement from the Senate Floor on March 25, 1966.**

On March 25, 48 years ago, the people of Byelorussia proclaimed their independence from the Soviet Union. On that date the Byelorussian Democratic Republic was created. A rada, or council, consisting of Jews, Poles, and Russians as well as Byelorussians was formed. A provisional constitution providing for free speech and assembly, liberty of conscience, autonomy of national minorities, and equality of all before the law, was passed.

Just as this new state, finally free from centuries of Russian domination, was beginning to exercise its freedom and independence, after its Government had already been recognized by over a dozen states, the troops of the Soviet Union reoccupied Byelorussian territory and reimposed the yoke of slavery. All the appeals for help by the Byelorussian Government went unheeded. The Byelorussian people tried to fight off the Russian armies, but ultimately and with much difficulty, the superior manpower and guns of the Soviet Army crushed the rebellion.

The Byelorussian people were free for only 3 years. Since 1921, these brave people have been incorporated into an administrative arm of the Soviet Government. What is now called the Byelorussian Soviet Socialist Republic is actually a new form of subjugation of the Byelorussian nation.

We take this day to honor the struggle and the spirit of the Byelorussian people. We take this day to commemorate with them their moment of freedom and independence. Our prayers and thoughts for their eventual liberation are raised to keep their hopes alive.

### HONORABLE FRANK J. LAUSCHE, U. S. SENATOR OF OHIO

**Statement from the Senate Floor on March 25, 1966.**

Mr. President, it took a world war and the Russian Revolution of 1917 to remind us that the Byelorussian people are a distinct ethnic group in northwestern Russia who struggled for their freedom for centuries, but who were almost lost to the rest of the world. In those days much of the world was quite unaware of the existence of the rest. But World War I shattered the barriers between Europe and Russia, and one of the peoples that asserted their freedom and regained their independence were the Byelorussians.

For centuries these sturdy people had been held down by the czarist regime of Russia; but now that the decrepit Russian autocracy was no more, they proclaimed their national independence on March 25, 1918, and hoped that thenceforth they would be allowed to live in freedom in their ancient homeland. They barely had time to express their joy and celebrate their freedom before they were shocked by the overwhelming attack of the Soviet Union's Red army. Soon the Bolshevik forces swept over Byelorussia, occupied it, and subsequently Byelorussia became one of the constituent republics of the Soviet Union.

But the Byelorussian people have not ceased their struggle for their freedom. Even under the relentless and rigid rule of the Communists, they carry on their fight for freedom, confident that eventually they will attain their goal. In their righteous cause, Mr. President, they have our wholehearted sympathy; on the 48th anniversary of their independence, I wish them forbearance and fortitude, and hope for their success.

### HONORABLE PETER H. DOMINICK, U. S. SENATOR OF COLORADO

**Statement from the Senate Floor on March 25, 1966.**

Mr. President, today marks the 48th anniversary of Byelorussian independence. I believe that the remarkable courage and determination of these people should be recognized. The Byelorussians are captive peoples, captives of the Soviets. Prof. Vincent W. Beach, of the history department at the University of Colorado, has written a fascinating article dealing with the techniques of Communist exploitation of these and similary subjected peoples.

We cannot afford to ignore the national aspirations of the enslaved peoples in the captive nations. We cannot afford to let go these hopes of dignified and spirited individuals who have for years labored under Communist domination. As Professor Beach's article shows, they have been forced to buckle under overpowering odds, against their will. We must develop programs carefully designed and implemented to aid them in obtaining their eventual liberation.

I have called many times for a reaffirmation of our belief that one day the captive nations, including Byelorussia as the third largest constituent Soviet republic in that group, should be freed.

Today, when we are hearing more and more about increased trade with the Soviet Bloc, there is an even greater need for a difinitive and concise policy in this area. We should employ our economic resources including trade, toward this end. Peaceful means which utilize our strongest resources — the American individual and his creative potential — are ready and waiting, if only our Government will recognize them.

Professor Beach's article sheds light on the weaknesses of the Communist approach and shows clearly where our resources could be used most effectively. The Byelorussian people, and the people of all nations enslaved by the Communist bloc, deserve the notice and the support of all free men.

I join Professor Beach and many of my colleagues today in calling for renewed efforts toward their eventual freedom.

### HONORABLE PAUL H. DOUGLAS, U. S. SENATOR OF ILLINOIS

**Statement from the Senate Floor on April 1, 1966**

Mr. President, March 25 marked the 48th anniversary of the Declaration of Independence of Byelorussia and it was observed by the Byelorussian Americans in Chicago on Sunday the 27th.

March 25 is the symbol of unity, freedom, independence, and democracy for the Byelorussian people everywhere; however, only in the free world can the Byelorussian people keep these ideals alive and continue their strife for a truly independent Byelorussia. And the Byelorussian people are not alone in this strife today but have the support for their cause in every country in the world where freedom is abiding. Each year, on the anniversary of their independence day, the Byelorussian in the free world are reminded not to stop their national task and remain indifferent, but to strive in a united and true familylike tradition to achieve the independence of the Soviet Russian dominated Byelorussian nation.

It is appropriate that we rightfully take time to assure the Byelorussian people that their desire for freedom and independence has not been forgotten by those who enjoy these selfsame advantages. It is our devout hope that the day will soon come when all men will enjoy them and that the Byelorussians will at that time take their rightful place in the family of free nations.



**Дэлегацыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня зь Лідэрам Дэмакратычнай фракцыі Сэнату Сэнатарам із штату Монтана Майк Мансфілдам (другі зьлева) і зь Лідэрам Рэспубліканскай фракцыі Сэнатарам із штату Іліной Эвэрэт Дэрксэнам (трэйці справа)**

### HONORABLE GEORGE MURPHY, U. S. SENATOR OF CALIFORNIA

**Statement from the Senate Floor on March 22, 1966.**

Mr. President, this week marks the 48th anniversary of the liberation of Byelorussia from domination by the Soviet Union. Sadly, here independence was shortlived lasting less than 3 years. This is a very short time to be free when you have fought and struggled for freedom for so long. Having been exposed to, and having experienced freedom, the Byelorussian people, I am convinced, will not lose faith and will continue in their struggle to regain their independence.

The history of this small but brave nation offers clear and convincing evidence that the right to self-determination is an aspiration that all oppressed peoples share. Further, the oppressed people of the world long for the day when freedom once again flourish in their countries and will cast asunder those totalitarian chains that will exploit a nation's economic resources and oppress the spirit and body of the people.

It is important for us free Americans to remember, Mr. President, that all the peoples of the world are not free. Many are struggling to achieve liberation from the yoke of oppression and persecution; others are striving valiantly to maintain their freedom.

Mr. President, we should particularly remember that no one came to the aid of Byelorussia in its struggle for independence and today there are many small countries that will fall to the same fate without the support of the free world. That is why our Nation is in Vietnam today.

The history of the United States shows that the securing of freedom does not come easy or cheap, but as all Americans know, the blessings of a free society are well worth the price. The prayers and thoughts of the American people, Mr. President, are with the oppressed people of the world and we sincerely hope that all people will soon enjoy freedom and independence.

## House of Representatives

### PRAYER

**The House met Monday, March 7, 1966 at 12 o'clock noon.**

**Reverend Father Michael Urbanovich, Mariampolis Preparatory School, Thompson, Conn., offered the following prayer:**

Let us pray in the name of the Father, and of the Son, and of the Holy Spirit.

Almighty God, the Lord and Ruler of all nations, today in this glorious House of Representatives of the United States of America we glorify Thee on behalf of the people who, led by Thy providential hand, came to this country from Byelorussia.

We thank Thee for the blessings Thou hast bestowed upon America.

Bless, O Lord, our President, our Speaker, our legislators, our clergy, and the Armed Forces of this land of freedom.

Bless the freedom-loving people of Byelorussia who 48 years ago on March 25, 1918, proclaimed the independence of their Byelorussian Democratic Republic. Freedom and democracy were shortlived in Byelorussia, because the Red army drove them out. Still, the Byelorussian people never lost their hopes for national independence and each year commemorate proclamation of independence—the historic March 25.

As we once more commemorate Byelorussian Independence Day here in these glorious United States, we pray Thee, O loving Father, to give the entire Byelorussian people spiritual strength to resist godless communism and preserve their ideals of liberty. Look down with favor, O Lord, upon Thy children who cry out to Thee in anguish for their deliverance.

We humbly beg Thee to grant that they may soon see the dawn of a better day, when together with all free men they might live in peace and prosperity, worshiping Thee, their only true God and Redeemer, with dignity and honor. Amen.

### HONORABLE HUGH L. CAREY CONGRESSMAN OF NEW YORK

**Excerpts from the Statement on March 15, 1966**

...At that time in 1918 when the Byelorussian Democratic Republic was established a provisional constitution provided for the basic freedoms for all citizens of the new democracy. The rada — council — of the first legal government of this republic was representative of all of the populace, including such national minorities as the Jews, Poles, and Russians. The constitution guaranteed within the boundaries of the Byelorussian Republic freedom of speech, freedom af assembly, the right to form labor unions, and the right to strike. It guaranteed liberty of conscience, inviolability of the person and of the home, the right of national minorities to autonomy, and the equality of all citizens before the law.

The fact that these hallmarks of democratization were to enjoy short success, and that the Byelorussian Democratic Republic was itself of short duration, does not detract from the lasting significance of the effort. It is, in fact, the more remarkable that, despite the sorry fate that was soon to overcome this triumph of independence, the spirit of the people was to persist through all frustrations...

...As we all know, the Byelorussian Soviet Socialist Republic was to be independent in name only. Domination by the Soviet Union was to be complete.

Nevertheless, despite all Soviet efforts at control, the spirit of independence among the Byelorussian people could not be eradicated. It has remained until this day. And, Mr. Speaker, it is this indomitable spirit of freedom which we today honor in celebrating Byelorussian Independence Day.

## 25 САКАВІКА Й МАЕ ДУМКІ

Сьвяткаваньне 25-га Сакавіка ў Таронта сёлета адбылося вельмі добра. Было шмат людзей — старэнькіх, сярэдняга веку, малдых і маладзенькіх. Былі прадстаўнікі Канадзкага Ураду й розных нацыянальнасьцяў. У багатай мастацкай праграме брала ўдзел амаль выключна роджаная тут беларуская моладзь. Каб хто прыйшоў на самы канец толькі, як усе сьпявалі нацыянальны гімн — з самога ўжо энтузіязму й сілы сьпеву мог-бы судзіць: „Ёсьць душа ў народзе гэтым!"

Аднак было там нешта, што як хмарка, ў пагодны сонечны дзень на часіну закрыла сонца й навеяла холад на душу. Едучы з акадэміі дамоў, я гэта адчула й у маёй галаве нуртавалі такія думкі:

Ці трэба сьвяткаваць нам дзень 25-га Сакавіка?... Адказ: Ці трэба хрысьціянам сьвяткаваць Вялікдзень, дзень Уваскрашэньня Хрыста? Хто ня верыць у Уваскрашэньне Хрыста, той ня ёсьць хрысьціянінам, хоць мо' сябе такім і лічыць. Хто ня верыць у ідэю 25-га Сакавіка, у незалежнасьць Беларусі, той ня ёсьць Беларусам, прынамся ня ёсьць жывым Беларусам. Ён ёсьць або, як казаў Мялешка, „сваёй косткай, што абрасла чужым мясам і...", або ёсьць сваёй косткай і сваім мясам, але бяз душы..." Няма душы ў целе тэтым. Зразумелая рэч, духовую пустку ён намагаецца запоўніць прывязаньнем да краіны, якая яго прыгарнула, дала свабоду, варункі жыцьця й то добрыя. Ён хоча быць ляяльным грамадзянінам Канады, ды ўзгадваць сваіх дзяцей толькі на добрых Канадыйцаў, бо, так ці гэтак, у другім ці трэйцім пакаленьні патомкі будуць толькі Канадыйцамі. У гэтым усім ёсьць праўда, ды ня зусім.

Папершае: Мы ня ёсьць другое, ці трэйцяе пакаленьне. Мы ёсьць роджаныя ў Беларусі, мы яшчэ жывём і наша місыя яшчэ ня скончана. Скончыцца яна тады, як ляжам у зямельку. Таму, як доўга жывём, ня маем права ані скласьці аружжа, ані ўцякаць з радоў, бо, калі так зробім, зрадзім свой народ, сваю Бацькаўшчыну, ідэю 25-га Сакавіка.

Падругое: Нясьведамыя грахі прабачаюцца лягчэй, як сьведамыя. Таму грэх Юды ёсьць сьмяротны, бо ён ведаў загадзя, што прадасьць Хрыста. Калі нясьведамы, неасьвечаны Беларус ня дбае пра тое, каб ягоныя дзеці гаварылі пабеларуску, ці не перамяецца лёсам беларускай арганізацыі — дык яму гэта канец канцоў можна выбачыць. Але калі асьвечаны й сьведамы Беларус складае аружжа й здае свае пазыцыі толькі таму, што ягоныя праўнукі, паводля яго, і так ня будуць ведаць пра Беларусь, дык яму гэта так лёгка не даруецца, бо ягоны грэх ёсьць сьведамы.

Патрэйцяе: Вельмі добра, што мы рупімся пра нашую зьмену, але на хвілінку пакіньма яе, а гляньма на саміх сябе. Толькі ўчора мы былі яшчэ „бойкая моладзь" і на нас нашыя бацькі й дзяды—творцы Трэйцяй Устаўной Граматы, абвяшчаючай Беларускую Народную Рэспубліку вольнай і незалежнай — паклалі свае надзеі. Яны стараліся даць нам навуку, а зь ёй сьвядомасьць нацыянальную — здольнасьць і ўменьне змагацца за волю. Яны спадзяваліся, што мы да канца будзем нясьці сьветач беларускасьці, што да канца будзем пракладаць распачаты імі шлях да незалежнасьці. Пакуль наракаць ды расчароўвацца ў моладзі, мо' ляпей ня будзем занядбоўваць сваіх абавязкаў перад нашымі бацькамі.

Пачацьвертае: Мо' мы й нашыя пакаленьні на эміграцыі й не здабудзем незалежнасьці Беларусі (хоць Жыды здабылі), але ў гэтым напрамку можам шмат чаго зрабіць, шмат у чым дапамагчы. Залежыць гэта ад кажнага з нас паасобку, ды ўсіх нас разам узяўшы. Пэўне-ж нічога не асягнём, калі яшчэ ў першым пакаленьні, яшчэ ў сіле гадоў пачнем здавацца, ды „...уцячом з шэрагаў".

**Раіса**

## СУПРАЦЬ РАСЕЙСКАГА КАЛЯНІЯЛІЗМУ

3-га лютага г.г., у часе дыскусіі ў канадзкім парляманьце над замежнай палітыкай Канады прамаўляў пасол Мікола Мандзюк (украінскага паходжаньня) з акругі Маркэт. Ён між іншага сьцьвердзіў, што Канада не заняла выразнага становішча што да вайны ў Ветнаме, як і ў справе падтрыманьня ЗША ў гэтым канфлікце. На думку прамоўцы, нявыразнае становішча Канады ў замежнай палітыцы спрычыняецца й да дызарганізацыі НАТО, што вельмі на руку Маскве й Пэкіну.

Канада павінна гуляць паважнейшую й большую ролю ў сьвеце, гаварыў прамоўца. Канадская дэлегацыя ў З. Н. не заняла ніякага становішча, — ды й ніхто іншы не заняў ніякага становішча ў канадзкім парляманьце што да найбольшай каляніяльнай імпэрыі ў Эўропе — кіраванай Масквой (тут міністар замежных спраў Канады Пол Мартын спасылаўся на прамову ў Генэральнай Асамблеі З. Н. з 24-га верасьня 1965 г.).

Прамоўца дзівіўся, чаму Канада моцна праймаецца каляніялізмам у Азіі й Афрыцы, але зусім ня цікавіцца вялікай каляніяльнай імпэрыяй, кіраванай Масквой у Ўсодняй Эўропе. „Ці расейская імпэрыя ўжо ня існуе?" — пытаўся пасол Мандзюк. „Калі яна ўжо ня існуе, дык так і скажам. Ці можам мы замоўчваць гэту справу? Ці русыфікацыя Украіны, Беларусі, Летувы, Польшчы й Каўказкіх народаў не адбываецца й надалей? Ці не адбываецца й надалей эканамічная эксплятацыя гэтых краінаў?" І далей: „Калі Украіна й Беларусь сапраўды сувэрэнныя дзяржавы, дык чаму тады Канада не зрабіла зь імі абмену дыпляматычнымі місіямі? Ці для Канадыйскага Ўраду гэтыя народы ня існуюць, ці ён (Канадзкі Ўрад) забыўся, што гэтыя народы ёсьць ахвярамі Расейскага імпэрыялізму?"

„Як можна пагадзіць гэтае замоўчваньне з удзелам канадзкіх міністраў, зь містэрам Мартынам улучна, на зборышчах этнічных групаў, на якіх свабода падбітых краінаў абвяшчаецца як галоўная мэта? Этнічныя групы ў Канадзе маюць права ведаць аб канадзкай палітыцы да гэтых краінаў" — казаў пасол Мандзюк. „Калі мы ня маем палітычнай лініі, дык мусім прызнацца ў гэтым", — сказаў ён на заканчэньне.

**„В. С." і „К. С."**

### ДЛЯ САМІХ СЯБЕ НА РОЗДУМ

„Вышэй пупа не падскочыш" — кажа народная прыказка, а другая — „з пустога й Салямон не нальле". Трэба сьпярша пустую судзіну напоўніць, каб пасьля зь яе наліць, трэба мець, каб даць, трэба сьпярша ўлажыць, каб пасьля выняць, трэба сьпярша пасеяць, каб пасьля зжаць.

Каб быць нечым, трэба мець 12-ці, а не 4-ох цыліндровы розум; трэба мець пачуцьцё чалавечае годнасьці, трэба перастаць думаць, што Яго Міласьць „Я" ёсьць „пупам сьвету", ужываючы тое самае анатамічнае выражэньне. Трэба перастаць думаць, што за кажнае паварушэньне пальцам у боце гэты-ж сьвет мае сьпяваць „Мне" пахвальныя гімны й абдорваць мэдалямі заслугаў, бо як не — дык кіну-рыну ўсё, ды яшчэ ўстаўлю калок між сьпіцаў у кола таму, у каго воз яшчэ едзе.

Скажаце — надта-ж страшна размалявала! Зрэштай, гэта ўсіх не датычыць. Спадзяюся, што не, але-ж як-ніяк усе мы патомкі Каіна, які забіў свайго брата Абеля толькі за тое, што Бог Абелеву ахвяру прыняў, а ягоную — Каінаву — не.

Хіба што мы маем вышэй успомненыя дадзеныя, каб „быць нечым", а калі не, дык мы хочам каб нас любілі, шанавалі, ацэньвалі нашу працу, хвалілі, бо як не — дык трагэдыя, у якой вінаваты кажныя іншыя, толькі не мы. Колькі горычы, болю й прыкрасьцяў мог-бы чалавек сабе заашчадзіць, каб ён не патрабаваў прызнаньня, ацэнкі ды любові іншых.

Мо' скажаце, гэтае жаданьне воплескаў ёсьць рухавіком да нашых „гэраічных вычынаў" і таму ёсьць карысным? Калі так, дык гэтыя вычыны, як-бы вялікімі яны навонкі ня выдаваліся, — у сутнасьці ёсьць марнымі, бо нарадзіліся зь нізенькіх матываў толькі паказацца — „што то Я!" А раз так, дык якжа-ж можна крыўдаваць, што сьвет не дае нам за іх мэдаляў?

З другога-ж ізноў боку, усе ня могуць быць высокаякаснымі, ці як тут кажу — „нечым". Што-ж нам звычайным сьмяротнікам рабіць, калі мы пахвалаў і пашаны няварты? Рабіць што можам і як можам для справы, у якую верым, ды старацца шанаваць такія-ж высілкі свайго сябры. І за гэта нас сьвет ацэніць, бо ідэйнасьць, працавітасьць, скромнасьць і пашана да іншых і зьяўляюцца высокімі якасьцямі чалавека.

**Р.**

## 25 САКАВІКА У АДДЗЕЛЕ БАЗА У ГЭМПСТЭД




**Зьлева направа: сакратар Аддзелу БАЗА ў Гэмпстэд Барыс Данілюк, старшыня Аддзелу Юрка Касьцюкевіч, старшыня каўнты Нассаў Эўджэн Г. Нікэрсан, скарбнік Аддзелу Кастусь Верабей у часе атрыманьня Праклямацыі**

Зарганізаваны ўсяго тры месяцы таму Аддзел БАЗА ў Гэмпстэд, павету Нассаў на Лёнг Айлэнд у штаце Нью Ёрк, ужо патрапіў прыгожа выказацца сваёй дзейнасьцяй. Дзякуючы энэргіі й патрыятызму сяброў управы, Аддзел прарабіў адпаведныя заходы, што старшыня павету (County Executive) Нассаў Эўджэн Г. Нікэрсан прыняў быў дэлегацыю гэтага Аддзелу ў складзе усяе ягонае ўправы ў сваім бюры й у ейнай прысутнасьці падпісаў праклямацыю, якой дзень 25 сакавіка абвесьціў Днём Незалежнасьці Беларусі ў павеце Нассаў.

Стараньнем сяброў управы, галоўна ейнага сакратара сп. Барыса Данілюка паважны й аўтарытэтны штодзённік „Лёнг Айленд Прэсс" зьмясьціў быў з гэтае нагоды даўжэйшы артыкул аб угодках абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, а найпапулярнейшая ньюёркаўская газэта „Дэйлі Ньюс" і лякальная газэта „Фармінгдэйл Пост" зьмясьцілі 24 сакавіка фотаздымак з мамэнту ўручэньня праклямацыі сп. Э. Нікэрсанам управе Аддзелу з кароткімі зацемкамі пра ўгодкі Акту 25 Сакавіка. Гэты-ж фотаздымак зьмяшчаем вышэй і ў нашай газэце.

# З УСПАМІНАЎ АБ 25 САКАВІКУ

Ужо 48-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі! А было-ж гэта нядаўна, здаецца, бо-ж на маёй памяці быў абвешчаны Акт 25-га Сакавіка.

Вучыўся я тады ў Беларускай Гімназіі ў Будславе й былі ў нас тады Немцы. У канцы сакавіка хтосьь з настаўнікаў прыехаў зь Менску (Шыла ці Лышчык — ня памятаю) і ўсім сабраным вучням і бацьком іх расказаў пра гістарычнае паседжаньне Рады БНР і прачытаў Акт 25-га Сакавіка. Пасьля гаварыў дырэктар гімназіі Васілевіч, ён тлумачыў нам значэньне гэтага Акту. А тады вучні дэклямавалі вершы (я дэклямаваў „Разьвейся, туман" Янкі Купалы), гімназіяльны хор прасьпяваў некалькі песьняў, а вучыцелька францускай мовы Л. Ігнатава засьпявала солё штосьь небеларускае, клясычнае.

Ад таго часу прайшло 48 год. 48-мы раз сьвяткуюцца нашыя слаўныя ўгодкі й 47 разоў былі адсьвяткаваныя ў розных абставінах і ў розных мясцох. Кажны Беларус ці Беларуска ў вольным сьвеце можа прасачыць на аснове сваіх успамінаў аб сьвяткаваньнях угодкаў 25-га Сакавіка пэўную частку свайго жыцьця й свайго ўдзелу ў беларускім грамадзкім жыцьці, а разам з тым адтварыць сваю вельмі цікавую гісторыю, ці, лепш, свой фрагмант гісторыі беларускага вызвольнага руху.

Кажны год, калі набліжаецца дата 25-га сакавіка — хоцькі-няхоцькі ўпадаеш у роздум, думкамі скіроўваешся ў мінулае сваё й нацыянальнае, адтвараеш паасобныя сьвяткаваньні 25-га Сакавіка — дзе й пры якіх абставінах яны адбыліся. Каб сабраць гэтыя ўспаміны нас усіх — утварылася-б цікавая мазайка геаграфічна-палітычна-гістарычная, падмацаваная натаўпам перажываньняў — успамінаў, радасьцяў, энтузіязму, узварушаньняў, расчараваньняў і цярпеньняў... А падыспадам усяго гэтага, як пласт гліны, ляжыць вялікая цягучая туга, туга па нечым блізкім, родным, вялікім — у чым маладосьць, і радасьць, і жыцьцё.

Як я прыпамінаю сабе, дык з гэтых 47-мі сьвяткаваньняў я ня браў удзелу ў васьмёх. Тры зь іх перажыў у савецкай цюрме й лягерах, чатыры ў чужым войску й адно пасьля цяжкой хваробы дома. Але й гэтыя гадавіны без грамадзкага беларускага акружэньня ня былі зусім пустымі. Былі зы мной і цікавыя думкі, і жывыя гутаркі з роднымі сябрамі лёсу.

З рашты-ж сьвяткаваньняў — на 16-цёх я быў у Вільні, на 4-ох у Празе, на 3-ох у Лёндане ў Англіі, на адным у Лювэне ў Бэльгіі, на двух у Мюнхэне і на адзінаццацёх у Таронта. Кажнае з гэтых сьвяткаваньняў — гэта асобная цікавая падзея й каб сабраў іх усе разам — была-б мо' й цікавая кніжка.

Найбольш сьветлымі выступаюць у маёй памяці сьвяткаваньні ў Вільні, асабліва-ж за вучнёўскіх часоў на пачатку 20-ых гадоў. Падзялюся тут успамінамі хоць аб адным зь іх — з 1921-га году.

Быў я тады вучням 1-ай Віленскай Беларускай Гімназіі. Дзень 25-га Сакавіка быў сьвятам і ніколі не адкладаўся, навет калі прыпадаў на будні дзень. Заняткаў ў гэты дзень ня было, але ўсе вучыцялі й вучні прыходзілі ў гімназію бяз кніжак, апранутыя ў найлепшае, што мелі. Прыходзілі на 9-ую гадзіну раніцы. Усе вучні, бяз розьніцы праваслаўныя ці каталікі, ахвотна станавіліся ў шэрагі й машыравалі ў праваслаўную царкву — Сабор Сьвятога Духа. (У 30-ых гадох у гістарычную Пятніцкую царкву — беларускую парахвіяльную). Толькі Жыды ня прылучаліся да шэрагаў, але шмат якія зь іх ішлі ўсёж у царкву вольнымі групкамі. На багаслужбу ў царкву прыходзілі ў шэрагах і дзеці зь беларускіх пачатковых школ, якіх тады ў Вільні было, здаецца, 7. Зьбіралася ў царкве й шмат грамадзтва, таксама бяз розьніцы веры. Прыходзілі ў шэрагах і жаўнеры Асобнага Беларускага Батальёну, які стаяў тады ў Вільні. Вялічэзная царква была перапоўнена.

Багаслужба была вельмі ўрачыстая. Служыў сам архірэй у асысьце сьвятароў і манахаў. Маліліся за Беларусь. Сьпяваў архірэйскі хор. Адзін зь сьвятароў гаварыў казаньне пабеларуску на тэму дня.

Пасьля багаслужбы ў праваслаўнай царкве ўсе бяз вынятку ішлі ў касьцёл сьв. Мікалая на каталіцкую багаслужбу. Які каталіцкі сьвятар меў імшу тады — я ня памятаю, але добра памятаю, што казаньне казаў ксёндз Адам Станкевіч, настаўнік нашай гімназіі. Ксёндз Адам ведамы быў з красамоўства, дык можна ўявіць, які настрой вытвараўся ў вернікаў ад яго патрыятычнага казаньня. Хор вучняў каталікоў сьпяваў беларускія рэлігійныя песьні ў часе багаслужбы.

Пасьля каталіцкай багаслужбы — школы й жаўнеры ў шэрагах, а грамадзтва вольна — усе накіроўваліся ў Беларускую Гімназію, у залі якой мела адбыцца ўрачыстая акадэмія.

Адчыніў акадэмію дырэктар гімназіі М. Кахановіч, а прамову аб Акце 25-га Сакавіка меў Антон Луцкевіч. Заля была біткам набіта вучнямі, бацькамі іх, жаўнерамі й грамадзтвам.

У мастацкай частцы вучні выступалі з дэклямацыямі, а гімназыяльны хор з песьнямі. Выступалі й артысты зь Беларускай Драматычнай Майстэрні, якая тады існавала ў Вільні. Яна рабіла часта пастаноўкі ў Вільні ў розных залях, але пераважна ў Беларускім Грамадзкім Клюбе й Беларускай гімназіі. На заканчэньне акадэміі ўся заля сьпявала „Не пагаснуць зоркі ў небе" — тадышні нацыянальны гімн.

Пасьля акадэміі ўсе разыходзіліся, апрача вучняў гімназіі, што атрымоўвалі дажывленьне. Спадарыня Арсеньнева (матка нашай паэткі) давала ім гарачую зупу. З прадуктамі ў Вільні тады было яшчэ цяжкавата й шмат якіх вучняў трэба было падкормліваць. Займалася гэтым Беларускае Дабрадзейнае Таварыства, якое атрымоўвала крыху прадуктаў з амэрыканскай дапамогі жыхаром Вільні.

Вечарам была ўрачыстасьць у Беларускім Грамадзкім Клюбе на Біскупскай вуліцы. Гэтая ўрачыстасьць мела шырэйшы, палітычны характар. Там зьбіраліся беларускія дзеячы, паважнейшае грамадзтва, студэнты ўнівэрсытэту й іншанацыянальныя госьці. Тут спачатку была акадэмія з дакладам і прывітальнымі прамовамі прадстаўнікоў ад беларускіх арганізацыяў, і іншых нацыянальнасьцяў: польскіх — ад Віленскіх Краёвых Дэмакратаў і партыі „Вызваленьне", ды ад летувіскіх і жыдоўскіх палітычных арганізацыяў.

Далей ішла мастацкая частка з рэцытацыямі артыстых, салёвымі сьпевамі й музычнымі нумарамі. Паасобных нумароў і іх выканаўцаў ня помню. Помню толькі, што сьпявалі Ганна Душэўская й Ніна Сасноўская, ды выступалі артыстыя: Ф. Аляхновіч, Пракулевічыха й Шчансновіч. Увесь вечар — у прыгожай, удэкараванай залі — меў узьнёслы характар. Паважнай публікі ў вячорных строях было шмат, дык мы, вучні старэйшых клясаў гімназіі, якія былі дапушчаны ў клюб толькі таму, што бралі ўдзел у мастацкай частцы, чуліся зьбянтэжанымі.

Паважная атмасфэра крыху расслаблівалася ў часе банкету, які адбыўся пасьля акадэміі. Сябры Клюбу, госьці — прадстаўнікі арганізацыяў сваіх і чужых, прэсы й удзельнікі мастацкай часткі — былі запрошаныя за расстаўленыя сталы з выпіўкай і закускай, а рэшта публікі частавалася ў ваграмадным буфэце ў другой залі. У часе банкету таксама былі прамовы, мо' вальнейшыя, але больш палкія. Банкет трываў да таго часу, пакуль не зайграла аркестра. Тады маладзейшыя йшлі танцаваць, а старэйшыя заставаліся ў гутарках пры сталох, або йшлі на каняк у буфэт. Забава трывала амаль да самай раніцы.

Было гэта ўсё пад польскай акупацыяй, але ў 1921 годзе. Акупацыя гэта не пасьпела яшчэ разгарнуць сваёй жорсткай палітыкі на „крэсах", дык тады яшчэ было і шмат беларускіх арганізацыяў, і шмат дзейных людзей у Вільні, якія ня надта лічыліся з акупацыяй. Таму й сьвяткаваць маглі і сьмялей, і шчырэй, і вальней.

**В. Жук**

